


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

12 студзеня 2001 года
№ 2 (299)
Цана ў розніцу 105 рублёў

TV плюс

## Навіны рэгіёна

### Ордэн праз паўстагоддзя

АШМЯНЫ. Днямі быломy сапёру 123–га асобнага сапёрнага батальёна 82–й стралковай дывізіі жыхару вёскі Працкаўшчына **Уладзіміру Секулю** ўручылі ордэн Чырвонай Зоркі. Узнагарода паступіла ў Ашмянскі райваенкамат з Міністэрства абароны Расіі, а ўзнагароджаны ордэнам ветэран быў за адзін з баёў пад Варшавай.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

### У Літву беларусаў хоча ехаць больш

СМАРГОНЬ. Праўда, не на пастаяннае месцажыхарства, а ў госці да родзічаў.

Пра гэта гаворыць той факт, што ў Смаргонскае бюро падарожжаў і экскурсій, якое займаецца афармленнем віз у суседнюю краіну, пачало звяртацца значна больш людзей. Прыкладна, у два разы больш, чым у мінулыя месяцы.

Супрацоўнікі бюро падобнае тлумачаць тым, што ад пачатку года кошт гадавых віз знізіўся з 40 да 20 долараў ЗША. А для беларусаў гэта даволі істотная сума.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

### Дзмітрый і Анастасія

МЯДЗЕЛ. Летась у раёне хлопчыкаў найчасцей называлі Дзмітрыем – 12, Уладзіславаў было 11. Для дзяўчынак ужо колькі год запар найпапулярнейшым застаецца імя Анастасія – 15, шмат было і Вікторый – 11. Ёсць і малыя жыхары Мядзельшчыны з рэдкімі імёнамі: Оскар, Майсей, Эвіта, Ніколь.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Нарач яшчэ не стала

МЯДЗЕЛ. Возера Нарач цалкам пакуль не замерзла: там, дзе глыбіня большая, яшчэ вада "гуляе". Работнікі азёрнай станцыі Нарач пакуль і таўшчыню лёду не вымяраюць: небяспечна. Гавораць, даўно такога не было. Прыкладам, летась у гэтыя дні таўшчыня лёду дасягала 20 сантыметраў. Чакаюць, што возера замерзне, калі ў пачатку наступнага тыдня будзе пахаладанне.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Мяняюцца кіраўнікі

АСТРАВЕЦ. Адметнасцю мінулага года ў раёне была змена кіраўнікоў рознага рангу. Не здраджвае мінулагодняй завядзёнцы і гэты.

Днямі стала вядома, што на пасаду галоўнага санітарнага ўрача прызначаная **Ганна Пашук**. Да гэтага часу яна працавала ў абласным цэнтры гігіены і эпідэміялогіі.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

### Забіваюць у інтэрнатах

МЯДЗЕЛ. 4 забойствы было летась у раёне. У мінулыя гады было 1–2. Усе раскрытыя. Па адным забойстве здзейснена ў Свірскім і Ілаўскім інтэрнатах для псіханеўралагічных хворых: хворыя забіваюць сабе падобных.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Па дарогах едзе «ПАЗ»

АСТРАВЕЦ. Новых аўтобусаў у мясцовым аўтапарку №4 пабольшала. Літаральна перад святочнымі днямі тут атрымалі новы аўтобус "ПАЗ", набыты за грошы з дарожнага фонду.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

### Змены ў тэлеэфіры

МІНСК. З Калодзішчаў пачаў вяшчаць на 29–м канале CARTROON NETWORK. З 13–00 да 17–00 на ім дзеці могуць глядзець замежныя мультфільмы з сінхронным перакладам.

Змяніўся гаспадар на 8–м канале. Цяпер на ім працуе сталічнае тэлебачанне. Многія мяркуюць, што гэта пачатак стварэння другога нацыянальнага канала БТ–2.

**Мікола ЛІННІК.**

### Надвор'е на выхадныя

Субота, 13 студзеня

| | |
|---|---|
| Мінск | Вільня |
| -5 – -6°C (уначы) | -5°C (уначы) |
| -3 – -4°C (удзень) | -1°C (удзень) |

Нядзеля, 14 студзеня

| | |
|---|---|
| Мінск | Вільня |
| -7 – -10°C (уначы) | -5°C (уначы) |
| -2 – -7°C (удзень) | 3°C (удзень) |

# Таццяну Кляшчонак адзначылі



Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

**Краязнаўца Таццяна Кляшчонак нарадзілася ў вёсцы Міхайлаўшчына на Ашмяншчыне. Скончыла гістарычны факультэт Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя Горкага. Настаўнічала ў Крупскім і Смаргонскім раёнах. Цяпер працуе настаўніцай краязнаўства і польскай мовы ў гімназіі ў Смаргоні. Публікавалася ў "Рэгіянальнай газеце" і іншых выданнях.**

**СМАРГОНЬ. Публікацыя пра Міхала Клеафаса Агінскага ў "Беларускім краязнаўчым часопісе" настаўніцы краязнаўства і польскай мовы гімназіі №4 Смаргоні Таццяны Кляшчонак адзначаная журы конкурсу імя Ежы Гедройца, заснаванага Польскім інстытутам у Мінску.**

Таццяна Іванаўна даўно захапляецца гісторыяй роду Агінскіх, а асобу кампазітара, грамадскага дзеяча, палітыка і касцюшкоўца лічыць вартай на постаць беларускага нацыянальнага героя.

Публікацыя "Міхал Клеафас Агінскі і Беларусь" – фрагмент да кандыдацкай дысертацыі па асобе Агінскага.

Краязнаўца сёння цесна супрацоўнічае з калегамі– прафесіяналамі і аматарамі з Польшчы, Літвы. Ёсць кантакты ў Англіі і Расіі.

У свой час, калі з асалодай чытала гістарычную і папулярную літаратуру на польскай мове, прыйшла да разумення, што зможа стаць і выкладчыкам польскай мовы, – далей у дыпламаванага гісторыка і германіста была вучоба.

Таццяна Кляшчонак бачыць у прызнанні сваёй работы яшчэ адзін факт прызнання значнасці гэтай асобы на беларуска–польскім культурным памежжы. З павагай гаворыць, што ў падваршаўскім Гузаве – на радзіме Агінскага – стараннямі мясцовых жыхароў за тры гады быў узведзены помнік Агінскаму, а таксама пытаецца: а ці не пастаўлены помнік Агінскаму ўжо ў Маладзечне.

**Мікола ГАЙДУК.**





■ ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

## Ці стаў пачатак новага тысячагоддзя чымсьці адметным?



**Рамуальд Улан, галоўны рэдактар "Новой газеты Сморгони", Смаргонь.**

Стаў. Хаця б таму, што ўпершыню з'ездзіў далей Польшчы – у самую прыгожую сталіцу Еўропы і распіў бутэльку шампанскага пад Эйфелевай вежай.



**Ксюша Шыкоўская, вучаніца 4 «А» класа гімназіі, Смаргонь.**

Зразумела. Мы ж добра нарадзіліся – трапілі ў новае тысячагоддзе.



**Ніна Сацура, бухгалтар, Смаргонь.**

Грошай няма. Сын вучыцца. Вось і думаю, як заплаціць ў гэтыя дні чарговыя 74 тысячы за вучобу. І так штомесяц.



**Марыя Абруціс, сартавальніца аддзялення Мінаблсаюздруку, Маладзечна.**

Нічым асаблівым не стаў. Дом, работа. А мінулы год быў для мяне цяжкі – пахавала бацьку. Спадзяюся, што гэты стане лепшым.

**Фотаапытанне правёў Аляксандр МАНЦЭВІЧ.**

# Кухарка Талстога

**ВІЛЕЙКА. На здымку ў цэнтры вы бачыце 90–гадовую віляйчанку Алену Куліцкую. Вярнуцца б нам у 1960 год і папрысутнічаць на тагачасным зборы 4 "В" класа мясцовай школы, даведаліся б мы шмат цікавага.**

Нам бы стала вядома, што родам гэтая кабета з польскага горада Грубешува, што месціцца ля самай граніцы з Украінай, непадалёк ад цэнтра Валыні – Луцка. Звалі яе тады Гелена Маеўска. Была яна ў сям'і сёмая. І раптам такая страта: не стала ні бацькі, ні маці. Пагнаў яе сіроцкі лёс па неабсяжных прасторах Расійскай імперыі ў пошуках кавалка хлеба. Пасля доўгіх блуканняў трапіла яна ў Ясную Паляну. Імя Льва Талстога грымела на ўвесь свет. Тут яна знайшла работу старшай кухаркі. Успамінала яна той час, як казачны сон:

– Быў Леў Мікалаевіч чулы, добры, вельмі ўважлівы да простых людзей. Шмат працаваў па гаспадарцы: і араў, і сеяў, і касіў, і дровы сек. Любіў лес, часта летам збіраў грыбы.

– Прыгатуй мне, калі ласка, грыбны суп, – звычайна прасіў ён. Бо любіў простыя стравы. Гасцям, зразумела, гатавалі ежу панскую.

А дом заўсёды аж гудзеў ад наведвальнікаў. Асабліва падабалася яму прымаць сялян, рабочых, студэнтаў. А як ён любіў дзяцей! Пабудаваў школу, пісаў падручнікі. Працаваў настаўнікам.

Дадам ад сябе: неўзабаве яна стане "прыдворнай". Але паслухаем успамін Гелены Маеўскай.

– Выйшла я замуж за канюха царскай стайні. Мой муж Сцяпан Куліцкі быў родам з Вілейскага ўезда, з вёскі Нарочы. Пераехалі ў Санкт–Пецярбург – сталіцу імперыі. Далі нам казённую кватэру. Муж – у прыдворнай канюшні, а я – зноў кухарка, таксама ў пісьменніка, але менш знакамітага – Туган–Бараноўскага. У 1913 годзе нарадзіўся першы сынок. Далі імя ў гонар цара – Мікола.

– Як падрос, памятаю, бегаў у казармы да казакоў. Балавалі яны мяне, – успамінае яе сын. – Гулялі са мной, кармілі кашай.

Кастрычніцкі пераварот запомніўся яму тым, што бацька прымусіў сям'ю легчы на падлогу. Каб уратавацца ад шалёнай кулі. Уладу захапілі бальшавікі. Ленін, як і ўсе дыктатары, пастаянна падкрэсліваў сваю любоў да народа. Нават заявіў, што цяпер усякая кухарка будзе кіраваць дзяржавай. Не, да дзяржаўнага руля кухарак не дапусціў. Руліў сам са сваімі паплечнікамі. Хутка дакіраваліся так, што страшэнны голад вымеў з гарадоў усіх, хто разлічваў на прытулак дзе–небудзь у вёсцы. Віну за сваё няўмельства зваліў на сусветную буржуазію.



Алена Куліцкая на сустрэчы з вучнямі 4 "В" класа СШ №2 Вілейкі. Фота з альбома сям'і А. Куліцкай.

– Мы тады і перабраліся на бацькаву радзіму, у Нарочу, на Вілейшчыну, каб пазбегнуць галоднай смерці, – успамінае Мікола.

У верасні 1939 года савецкая ўлада сама дабралася ў Заходнюю Беларусь. Паступіў тады Мікола ў конную міліцыю – пайшоў па слядах бацькі, бо меў справу з коньмі.

– На другі дзень вайны, 23 чэрвеня 1941 года, загадалі і мне суправаджаць зняволеных Вілейскай турмы. Пешшу ішлі да да Барысава, – расказвае ён. – Там пагрузілі зняволеных у эшалон – і праз Маскву ў Разань. Вязняў здалі мясцовай турэмнай ахове, а неўзабаве іх перадалі ў Армію Андэрса. А мяне накіравалі ў пажарную каманду, дзе я і праслужыў у прыфрантавых гарадах, у якіх прайшло юнацтва маёй мамы. У Вілейку вярнуўся ў 1944 годзе. Тут і праслужыў у міліцыі да пенсіі.

Праўнук Алены Куліцкай Уладзімір Раманоўскі пайшоў па слядах дзеда Міколы: працуе дыспетчарам у пажарнай часці Маладзечна. Калі даведаўся, хто я, сказаў:

– О! "Рэгіянальную газету" мы чытаем рэгулярна. Для нас будзе вялікім гонарам, калі яна напіша пра маю бабулю Лену.

**Аляксандр НАРКЕВІЧ.**

## Ведай нашых!

**АСТРАВЕЦ. На абласных прадметных алімпіядах вучаніца СШ №1 Вольга Чарапко заняла першае месца па беларускай мове, а вучань СШ №2 Дзмітрый Kaцінель быў другі па геаграфіі.**

Трэба зазначыць, што для астравецкіх вучняў прызавыя месцы ў Гродне робяцца заканамернасцю.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

■ **ДНІ**

**14 студзеня – 120 год з дня нараджэння М. Макушка** (1881–1952), беларускага вучонага ў галіне заалогіі, акадэміка АН Беларусі.

**80 год з дня заснавання** (1921) **Беларускага бюро Расійскага тэлеграфнага агенцтва** (з 1931 г. – Тэлеграфнае агенцтва БССР – БелТА, цяпер – Беларускае інфармацыйнае агенцтва – Белінфарм).

**15 студзеня – 75 год з дня нараджэння П. Шубы** (1926), беларускага мовазнаўцы.

**55 год таму** (15.01–29.01.1946) у Мінску **адбыўся судовы працэс над ваеннымі злачынцамі нямецка–фашысцкай арміі.**

**16 студзеня – 175 год з дня нараджэння Р. Траўгута** (1826–1864), аднаго з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гг. у Польшчы, Беларусі і Літве.

**100 год з дня нараджэння М. Міцкевіча** (1901–1954), беларускага рэжысёра і акцёра.

**17 студзеня 1971 года – адкрыццё ў Мінску Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі.**

**18 студзеня – 100 год з дня нараджэння І. Пятроўскага** (1901–1973), матэматыка.

**80 год з дня заснавання** (1921) **Дзяржаўнага выдавецтва Беларусі** (з 1963 г. – выдавецтва "Беларусь").

■ КУФЭРАК

## Асобы і творы

**Пабачыў свет біяграфічны даведнік Веры Тумаш "Культура зямлі Астравецкай. Асобы і людзі", выдадзены ў серыі "Беларускі кнігазбор" Нацыянальным навукова–асветным цэнтрам імя Францыска Скарыны і Астравецкім райвыканкомам.**




У кнізе расказваецца пра мастакоў, пісьменнікаў, кампазітараў, вучоных, дзеячаў культуры, якія нарадзіліся або жылі на Астравеччыне. 22 імені розных людзей сабрана пад адной вокладкай. Тут прадстаўлены беларускі паэт **Рычард Бялячыц** і літоўская мастачка **Бірутэ Куцкайтэ**, польскі і англійскі мастак **Мар'ян Богуш–Шышка** і рускі вучоны **Іосіф Гашкевіч**...

Маленькая, на 24 старонкі, кніжыца, як маленькая энцыклапедыя аднаго з куточкаў нашага краю. Яна выйшла тыражом 500 экземпляраў.

**Аляксандр МАНЦЭВІЧ.**

■ РЭЗАНАНС

# Пачуцці засталіся

**МАЛАДЗЕЧНА. Восеньскія дні прыцягвалі ўвагу аматараў і знаўцаў прыгожага мастацтва выстаўкай твораў мастака Алега Драбышэўскага. Ён родам з Астравеччыны, працуе ў Мінску, а бацькі цяпер жывуць у Маладзечне. Імя і палотны Драбышэўскага для мяне прыемнае адкрыццё. Бо "чорныя квадраты" ды піск мадэрну мяне не вабяць. А пейзажны жывапіс мяне кранае да слёз: святыя храмы, замкі, гарадзішчы, якія так патаемна і рамантычна ўпісваюцца ў нашы краявіды, дапамагаюць ажывіць далёкае мінулае, што так дорага кожнаму з нас. Палюбавацца палотнамі Драбышэўскага прыходзіла некалькі разоў.**

На закрыцці выстаўкі быў і сам мастак, і яго маці, бацька, блізкі сябра, паэт **Мікола Мятліцкі**. У салоне муз ЦГБ імя М. Багдановіча былі паэты, рабочыя прадпрыемстваў, пенсіянеры. Людзі розных узростаў, розныя і іх меркаванні, але характэрна адно: выстаўка выклікала добрыя ўспаміны, пачуцці, абудзіла мінулае, паклікала ў дзяцінства, на бацькаўшчыну. **Валерый Мілаш** свае пачуцці выказаў паэтычнымі радкамі, рабочы **В. Налівайка** адзначыў: "Вельмі добра, што ёсць яшчэ мастакі, якія пішуць з натуры".

"Не, не дарэмна я прыйшла, свой час не згубіла, а знайшла, убачыла дар Божы", – напісала мастачка, паэтка **Антаніна Нявера**, якая таксама падарыла мастаку верш.

"Дзякуй! Вельмі тонка і прыгожа. Некаторыя работы пранікнуты ўнутраным дзіўным святлом. А ў "Родным куце" убачыла бабуліну хату ў вёсцы Катлінаўцы Баранавіцкага раёна. Вельмі падабаецца "Прадчуванне вясны", "Радзіма", "Малінавы звон", "Усё роднае да болю", – напісала **В. Кажамяка**.

Шасцігадовая дзяўчынка, якая толькі што навучылася пісаць, пакінула ў "Кнізе водгукаў": "Вашы карціны мне вельмі спадабаліся".

У Маладзечне склалася трывалае культурнае асяроддзе, і ўжо гэтым горад багаты. Тут ёсць таленавітыя музыканты, спевакі, кампазітары, дырыжоры. Ёсць адраджэнцы, якія расчыняць шаты гісторыі нашага краю, знаёмяць нас з малавядомымі постацямі вядомых людзей, іх талентам, подзвігам.

Аднымі з ініцыятараў у гэтым асяроддзі з'яўляюцца работнікі бібліятэк і, у першую чаргу, бібліятэкі імя Багдановіча. "Сэрца культуры горада" – такія словы даводзіцца чуць пра гэтую ўстанову культуры. У залах бібліятэкі часам гучыць музыка, голас спевака, тут можна пачуць шчырае слова, адрасаванае вартаму чалавеку. Вестыбюль другога паверха часта ўпрыгожаны карцінамі, якія не проста вабяць, а быццам гавораць: "Падыдзі да нас бліжэй, дарагі чытач! Паглядзі, якая прыгожая і багатая наша матуля–Беларусь! Можа, убачанае табой абудзіць прыемныя ўспаміны, шчырыя пачуцці, узбагаціць твой духоўны свет... Натхніць на добрыя ўчынкі...".

Культурнае асяроддзе ў Маладзечне мае вялікі патэнцыял, бо ці не з кожным днём абрастае за кошт новых талентаў, адукаваных спецыялістаў і проста падзвіжнікаў і энтузіястаў.





Работы А.Драбышэўскага з выстаўкі. Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

Зладзіла гэтае цікавае мерапрыемства **Ларыса Сысун**. Больш за дваццаць год таму яна прыехала ў Маладзечна з Расіі. У кароткі час лёгка і проста ўпісалася ў пульс горада, вывучыла беларускую мову і не толькі ўлілася ў культурнае жыццё, але і ўзбагаціла яго. Адметныя даты, юбілеі, святы яна ўмее адзначыць неардынарным, змястоўным мерапрыемствам, на ўсё адгукнецца.

**Любоў КАРПОВІЧ.**

## Кінатэатр «Радзіма»

**Вялікая зала, студзень**

12–14 **"Зайздрасць багоў"**, Расія, меладрама (фільм фестывалю "Лістапад–2000") 16–30, 19–00

**"Павукі"**, ЗША, фільм–катастрофа, да 16 год 21–30

13–14 **"Аленяня Рудольф"**, прэм'ера 14–00

16–21 **"Дзённік яго жонкі"**, Расія–Балгарыя, драма (фільм фестывалю "Лістапад-2000") 17–00, 19–10

**"Гэта ўсё яна"**, маладзёжная камедыя, ЗША 13–00, 15–00, 21–20

**Для дзяцей**

14 – **"Аленяня Рудольф"**, прэм'ера 11–00

**13, 14 студзеня – прэм'ера мультыплікацыйнага фільма для ўсёй сям'і "Аленяня Рудольф".**

Чарадзейная казка пра самага папулярнага ў свеце калядНага героя – аленяня Рудольфа.

Сеансы 13 студзеня – 14–00; 14 студзеня – 11–00, 14–00.

Цана білета 170 рублёў.

# Як выбіраць пральную машыну

**Колькі дзён вы можаце пражыць без пральнай машыны? На гэтае пытанне ёсць 2 варыянты адказу: тыя, у каго яна ёсць, адказваюць, што 2–3 дні, тыя, у каго няма, гавораць, што без яе можна жыць доўга. Але мы ім не верым.**


На любы густ.
Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА.

Такім чынам, вы рашыліся, але не ведаеце, што выбраць. Пачнем ад печкі – колькі чалавек у вашай сям'і. Калі вас трое і меней, вам падыдзе пральная машына на 3 кілаграмы бялізны, калі болей – магчыма трэба падумаць пра машыну з большай загрузкай. З машын з загрузкай на 3 кілаграмы найбольш вядомыя італьянскія мадэлі Акваматык фірмы Candy, аўстрыйскія Еўрановы і шведскія машынкі Электралюкс 1170. Вышэйпералічаныя машыны могуць быць размешчаныя пад спецыяльнымі ракавінамі "кувшинка" у ванным пакоі.

Калі ваша сям'я большая, то трэба падумаць пра большую машыну. Тут вельмі важна, куды яе паставіць. У ЗША людзі звычайна маюць спецыяльны пакой для пральнай і сушыльнай машын. Калі ў вашай кватэры або доме больш за 100 метраў – гэта самае лепшае рашэнне. Калі ў машыны, якую купляеце, няма функцыі сушкі, то купіць асобную машыну для сушкі проста неабходна (гэта можа быць Bosch TWL 5400 цаной каля 600 долараў). Для такіх пакупнікоў можна парэкамендаваць вельмі якасныя і наварочаныя поўнаразмерныя пральныя машынкі фірмы Bosch. Добры Bosch павінен каштаваць больш за 700 долараў. Можна парэкамендаваць Bosch WFK 2831 або машыну з сушкай Bosch WET 2820. Калі месца ў кватэры менш, то трэба добра падумаць, дзе паставіць цуда тэхнікі. Аднак спецыялісты лічаць, што вялікія машыны, звычайна, больш надзейныя за вузкія. Часта пральную машыну ставяць на кухні. Маё ж меркаванне: на кухні трэба ставіць пасудамыечную машыну, а пральную лепш паставіць дзе–небудзь яшчэ.

Магчыма, у вас знойдзецца крыху месца ў калідоры. У гэтым выпадку звярніце ўвагу на вузкія пральныя машыны шырынёй 32–34 см. Candy Холідэй прадаюцца даўно і рэдка ламаюцца. Добрая машына Занусі fl 984 CN.

Калі месца крыху больш, падумайце пра машыну з сушкай. Яе глыбіня можа быць усяго 42 см (Candy Алізе 844). Да пральнай машыны з сушкай даволі складана прынаравіцца, многія гаспадыні скардзяцца, што яны перасушваюць бялізну. Устанаўліваючы пральную машыну, паспрабуйце знайсці ёй месца не далей за 2.5 метра ад трубы з халоднай вадой і каналізацыі.

Калі ў калідоры месца не надта шмат, застаецца паставіць яе ў ванным пакоі. Ванны пакой добры для пральнай машыны тым, што тут прысутнічаюць усе неабходныя камунікацыі, але ў ванным пакоі трэба быць асабліва асцярожным з электрычнасцю. Размяшчаючы машыну ў ванным пакоі, вельмі важна паставіць абароненую ад вады электрычную разетку і зрабіць надзейнае зазямленне. Пры ўстаноўцы пральнай машыны ў ванным пакоі я асабліва рэкамендаваў бы звяртацца да прафесійных установўшчыкаў, а не спрабаваць гэта зрабіць самастойна або даручаць сантэхніку, які робіць у вас рамонт санвузла. У многіх сучасных дамах у ванным пакоі пральную машыну можна паставіць толькі пад ракавіну, ды і тое спецыяльную, з сямейства "кувшинок". Бо пральная машына не павінна выступаць з–пад ракавіны, гэта нязручна і небяспечна. Пырскі, якія вылятаюць з ракавіны могуць прывесці, у лепшым выпадку, да паломкі машыны, а ў горшым...

Гаворачы пра маленькія машыны, нельга не сказаць пра аўстрыйскую "Малютку ад "Поршэ" – Еўранову. Наогул, іх 3 машыны: лідэр мадэльнага раду – Сінгалнова – асацыіруецца ў мяне з аўтамабілем маркі Поршэ. Мне не падабаецца іх арыгінальны знешні выгляд, але іх нельга не паважаць за выдатныя магчымасці і надзейнасць. Аднойчы мне паказалі такі фокус з гэтай машынай: на яе паставілі цыгарэту (не паклалі, а паставілі, і не пачак, а адну). Машыну ўключылі, і яна мыла бялізну і адціскала з хуткасцю 1000 абаротаў, а цыгарэта не ўпала. Гэта нагадала мне шолах шын аўтамабіля Поршэ, які праносіцца з хуткасцю каля 300 км, – дух захоплівае. Цана гэтай малюткі адпавядае 800 доларам. Еўранова 600 таксама асацыіруецца ў мяне з творам Фердынанда Поршэ, але з іншым – Фольксваген Жук. Гэтая кузурка ўмудраецца выпускацца без вялікіх змяненняў шмат год і працягвае заваёўваць сэрцы новых прыхільнікаў сваім незвычайным дызайнам і надзейнасцю (мой знаёмы майстар рамантаваў 17–гадовую машыну, і паломка была нязначная). Дарэчы, у Аўстрыі іх прадаюць намнога даражэй, чым у нас, але з 3–гадовай гарантыяй. Аднак многіх насцярожвае незвычайная якасць гэтай машыны: перш, чым пачаць адціскаць, яна раскладвае бялізну і пры гэтым раскачваецца на 2–3 см у кожны бок. Гэта зусім як Жук, які мае рухавік паветранага ахалоджвання.

Электралюкс даволі добрая тэхніка, але пад ракавіну яго лепш не ставіць, гэтая машына мае большую, чым Еўранова і Candy Акваматык глыбіню, і яе нават "кувшинкой" не заўсёды атрымліваецца прыкрыць.

Дарэчы, ці ведаеце вы пра тое, што пральную машыну і любыя іншыя прыборы, якія працуюць з вадой, па інструкцыі трэба кожны раз пасля работы адключаць ад крыніцы вады і заставацца з ёю ўвесь час мыцця адзення, таму што яна можа заліць вам кватэру?

**МІХАІЛ.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 4 студзеня | 11 студзеня |
|---|---|---|
| Долар | 1180,00 руб. | **1190,00** руб. |
| Нямецкая марка | 560,58 руб. | **572,39** руб. |
| Літ | 295,07 руб. | **297,42** руб. |
| Расійскі рубель | 41,97 руб. | **41,94** руб. |
| Злоты | 284,68 руб. | **286,85** руб. |
| ЕЎРА | 1096,40 руб. | **1119,49** руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1230 – 1270 руб. | **1230 – 1250** руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 03.01 | 10.01 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 1700 | **1700** |
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 6313 | **5446** |
| Сасіскі, 1 кг | 1850 | **2100** |
| Селядзец, 1 кг | 1100 | **1050** |
| Рыс, 1 кг | 430 | **420** |
| Грэчка, 1 кг | 480 | **470** |
| Цукар, 1 кг | 558 | **558** |
| Алей, 1 л | 670 | **670** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 650 | **670** |
| Маянэз, 200 г | 240 | **250** |
| Кава "Пеле", 100 г | 1200 | **1200** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 400 | **420** |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 360 | **360** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 200 | **180** |
| Капуста, 1 кг | 80 | **100** |
| Лімоны, 1 кг | | **1300** |
| Апельсіны, 1 кг | | **1000** |

**Сялянскія прадукты**

| | | |
|---|---|---|
| Смятана, 1 л | 800 | **900** |
| Масла, 1 кг | 1800 | **1800** |
| Тварог, 1 кг | 900 | **800** |
| Малако, 1,5 л | 350 | **380** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1000 | **900** |
| Бульба, вялікае вядро | | **800** |
| Морква, 1 кг | 200 | **250** |
| Яблыкі, 1 кг | 370 | **350** |

## І ў пост, і ў свята


Фота IREX/ProMedia.
**Страсці на рэчавых рынках краіны папрыцішыліся. Забастоўка пайшла на спад. Нават у Маладзечне. А алей куплялі, купляюць і купляць будуць. І ў пост, і ў свята.**

■ ЗДАРЭННІ

## Караецца абыякавасць

ВІЛЕЙКА. 3 студзеня каля 13–00 у вёсцы Варонічы Куранецкага сельсавета адбыўся пажар у жылым доме. Прычынай было неасцярожнае абыходжанне гаспадыні з газавай плітой. У выніку загінула гаспадыня дома, яе муж атрымаў апёкі і дастаўлены ў Вілейскае тэрытарыяльнае медыцынскае аб'яднанне. Агнём знішчаная веранда, дах, перакрыцці на ўсёй плошчы, пашкоджаныя асабістыя рэчы і маёмасць.

9 студзеня ў вёсцы Івашынавічы Касцяневіцкага сельсавета адбыўся пажар, у выніку якога загінуў гаспадар дома. Жонка ў гэты час знаходзілася на лячэнні ў бальніцы. Агнём пашкоджаны жылы дом. Прычына пажару ўстанаўліваецца.

**Алена АЛЬФЕР.**

■ «РГ»–СТАТЫСТЫКА

## Крадуць маёмасць

**У Смаргонскім раёне ў 2000 годзе было зарэгістравана 542 злачынствы, што на 26 злачынстваў, або на 4,6%, менш, чым у мінулым годзе. Былі раскрытыя ўсе забойствы, цяжкія цялесныя пашкоджанні, згвалтаванні, махлярствы, разбоі, угоны аўтатранспарту. Пры зніжэнні ўзроўню злачыннасці па раёне колькасць злачынстваў, здзейсненых у сельскай мясцовасці, павялічылася на 25%.**

Узровень злачыннасці на 10 тысяч насельніцтва, тым не менш, складае ў Смаргоні 93,4, у сельскай мясцовасці – 80,6, а ў цэлым па раёне – 88,4.

Здзейснена 39 краж дзяржаўнай уласнасці, 62% гэтых краж здзейснена ў сельскай мясцовасці, а 36% – пры свабодным доступе да прадмета замаху.

Здзейсненая 161 кража асабістай уласнасці, у 66,2% злачынцы мелі свабодны доступ да маёмасці, а 52,2% краж здзейснена з кватэр, дамоў і інтэрнатаў. Асноўны прадмет замахаў – грошы, прамтавары, радыё–тэле–відэаапаратура. Выкрадзена 17 аўтамабіляў, а таксама 16 краж запчастак да іх.

Усяго злачынствы здзяйснялі 371 чалавек, сярод якіх 36 непаўналетніх, 56 жанчын, 123 чалавекі, якія раней здзяйснялі злачынствы. У нецвярозым стане ў момант злачынства было 114 чалавек.

Да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнута 34938 чалавек, у тым ліку, за парушэнне правіла дарожнага руху – 26837 чалавек (насельніцтва раёна складае 61,5 тысяч чалавек, у горадзе – 36,2 тысячы, у сельскай мясцовасці – 25,3 тысячы жыхароў).

**Мікіта ЛІСТАПАД.**

## Тарыфы растуць

**МІНСК, 8 студзеня. У першыя дні новага года зноў узраслі базавыя тарыфы на праезд у цягніках далёкага накіравання.**

Зараз за паездку, напрыклад, з Мінска ў Маскву ў плацкартным вагоне хуткага цягніка трэба заплаціць 11355 рублёў (раней – 11120), Санкт-Пецярбург – 15621 (15308), Смаленск – 7205 (7049), Кіеў – 11200 (10958), Адлер – 29209 (28599), Калінінград – 17934 (17558), Харкаў – 13609 (13314).

Праезд у купе пасажырскага цягніка з Мінска ў Маскву будзе каштаваць 16186 рублёў (15849), Кіеў – 15864 (15521), Вільнюс – 10620 (10394), Адэсу – 26814 (26243), Мурманск – 39019 (38197).

З пачатку снежня 1999 года базавыя тарыфы на праезд у цягніках далёкага накіравання ўзраслі ўжо на 18 працэнтаў.

**Дзмітрый УЛАСАЎ, БелаПАН.**

## «Портэр» і «Наша марка» робяцца дэфіцытнымі

АСТРАВЕЦ. Аматараў піва Лідскі піўзавод парадаваў новымі гатункамі "Портэр" і "Наша марка". Астравецкім піваманам, нягледзячы на даволі вялікі кошт (больш за 800 рублёў бутэлька), яны прыйшліся даспадобы. Першая партыя, што з'явілася ў крамах, раскупілася хутка. Ці не надыходзіць час дэфіцыту?

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

# Ці пераможны самагон?

■ ХРОНІКА ВАЙНЫ

## Самагонная рака

**СМАРГОНЬ. Не мялее самагонная рака, як ні стараецца міліцыя яе перакрыць. За мінулы год у Смаргонскім раёне забралі і знішчылі 603 літры самагону, 5513 літраў брагі, 46 самагонных апаратаў, 38 ачагоў самагонаварэння.**

Да адміністрацыйнай адказнасці за самагонаварэнне, захоўванне і набыццё прыцягнута 313 чалавек, да крымінальнай адказнасці за збыт самагону прыцягнута 19 чалавек. Ужо ў гэтым годзе ў раёне знішчана 352 літры самагону, 2950 літраў брагі, 31 апарат і 10 ачагоў самагонаварэння. Да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнута 140 чалавек, да крымінальнай – 9 чалавек. Самі міліцыянеры ведаюць, што гэта малая частка таго, што ёсць на самой справе.

Карныя меры ў барацьбе з самагонаварэннем не прыносяць вынікаў. За апошнія гады выпіўка стала таннейшая за закуску.

**Мікіта ЛІСТАПАД.**

## Буйныя знаходкі

АШМЯНЫ. Праведзены рэйд па Ашмянах з мэтай выяўлення выпадкаў самагонаварэння. За тыдзень выяўлена па раёне 13 такіх выпадкаў. Самай буйной знаходкай стала 280 літраў брагі, знойдзеных дома ў жыхара Ашмян.

**Аддзел інфармацыі «РГ».**

## Смаргонцы вязуць самагон у Літву

**СМАРГОНЬ. Кантрабанду, якая нячаста сустракаецца, выявілі памежнікі Смаргонскага пагранатрада.**

«Трывожная» група затрымала мясцовага жыхара, які на сваёй фурманцы спрабаваў вывезці ў Літву 58 літраў самагону. Кантрабандыста затрымалі і змясцілі ў ізалятар часовага ўтрымання Смаргонскага пагранатрада.

**Па матэрыялах БелаПАН.**

## З гісторыі гарэлкі

**МЯДЗЕЛ. У пачатку бягучага стагоддзя ў Кабыльніку была карчма, у якой прадавалася спіртное. У 1915-1918 гадах, пад час першай сусветнай вайны ў вёсцы немцы адкрылі казіно для афіцэраў, часці якіх адводзіліся з фронту на адпачынак і папаўненне.**

Пры Польшчы існаваў адзіны рэстаран (прыватны).

Пасля другой сусветнай вайны людзі менш спажывалі спіртное. Потым попыт на "зялёнага змея" павялічыўся. Быў перыяд, калі гандлявалі гарэлкай у адной краме, прадавалі толькі па спісах.

Сёння набыць аматару гарэлку можна аж у 13 месцах: кааператыўных магазінах, прыватных ларках, начным бары і нават... на пошце.

Хто не займаўся самагонаварэннем, дык цяпер спрабуе асвоіць гэты від дзейнасці. У сельмагу многія змаглі па нізкай цане купіць брашуру "Самогон. Оборудование и рецепты домашнего приготовления". Літаратура выдадзена ў расійскім горадзе Цвер і ў вялікай колькасці завезена ў Беларусь. У той жа Нарачы дапаможнік па самагонаварэнні разышоўся хутчэй, чым якая іншая кніга.

**Міхась ЧАРНЯЎСКІ.**



«Казёнка» пераможа самагон?

Фота IREX/ProMedia.



На траіх.

Фота IREX/ProMedia.

## Гналі, гоняць, будуць гнаць

Штуршок масаваму самагонаварэнню даў у 1985 годзе гарбачоўскі сухі закон. У адзін дзень народ быў адрэзаны ад традыцыі, якой налічвалася шмат стагоддзяў. Адразу ж у самагоншчыкі перакваліфікавалася значная частка насельніцтва. І не толькі таму, што ўсе гэтыя людзі ўжывалі алкаголь, а і таму, што бутэлька гарэлкі – гэта яшчэ і вадкая валюта. І хоць працэс самагонаварэння, на першы погляд, здаецца зусім лёгкім, як казала адна гаспадыня, "нешта сярэдняе паміж прыгатаваннем цеста для бліноў і пастаноўкай кампотаў", але ж першы этап масавага самагонаварэння праходзіў марудна. Была страчаная дзедаўская тэхналогія, не было абсталявання ды сыравіна то знікала (цукар), то зусім была непрыгодная (на заводах у жытнюю муку сыпалі соль). Прыходзілася гнаць на прымітыўных апаратах тыпу каструля ў каструлі ці нават у прыстасаванай скараварцы. Адзін мой знаёмы, каб паскорыць працэс браджэння, бражку заводзіў у пральнай машыне, а потым калбаціў яе з раніцы да вечара. Праз дванаццаць гадзін брагу можна было пераганяць. А сыравінай было ўсё, што трапляла пад руку: мука, цукар, бульба, крухмал, буракі, цукеркі, таматная паста, нават кукурузныя палачкі. А аднойчы давялося каштаваць самагонку са скіслага піва! Якасць такога напою не заўсёды адпавядала норме, таму і звалася самагонка барматухай, сівухай і нават касарылаўкай.

Другі этап пачаўся з развалам Саюза і пачаткам рыначных адносінаў. Значна аслабеў кантроль і з'явілася магчымасць на самагонцы зарабляць грошы. Ды і вопыт накапіўся, а беспрацоўныя інжынеры і прадпрыемствы, што амаль спыніліся, распрацавалі і наладзілі выпуск разнастайных апаратаў для вырабу спірту. А на кніжных паліцах з'явілася літаратура...

Цяпер самагонку называюць сэм (на амерыканскі манер), лясная (назва гаворыць пра яе высокую якасць) ці проста гарэлка.

Тым не менш, дрэннай самагонкі хапала раней, ёсць яна і цяпер. Для крэпасці даюць дыхлафос, пральны парашок, газалін і курыны памёт. У часы вучобы ў інстытуце мне давялося ўбачыць карту самагонаварэння Беларусі, складзеную адным сур'ёзным і паважаным выкладчыкам. Карта давала ўяўленне аб сыравіне і крэпасці. Валожынскі, Маладзечанскі і Вілейскі раёны былі зафарбаваныя жоўтым колерам, што азначала: сыравінай з'яўляецца жытняя мука. А ізалініі паказвалі крэпасць 35–40°. Асобна была абазначаная знакамітая на ўсю Беларусь бакштанка, якую робяць на граніцы Іўеўскага і Валожынскага раёнаў. Крэпасць яе 60°. Калі такі самагон перагнаць два разы, а потым перацадзіць праз бярозавыя вуглі, ён амаль нічым не адрозніваецца ад медыцынскага спірту. А ў час вайны ў партызанскіх шпіталях такі спірт выкарыстоўвалі як для абеззаражвання, так і ў якасці наркозу.

Калі самагонку гоняць у лесе, адпрацаваная брага зліваецца. Пачаставацца ёй прыходзяць дзікі і ласі, а што тычыцца насякомых, дык для іх гэта цэлае мора ежы. Найбольш руплівыя гаспадары брагу зліваюць у флягі і вязуць дадому. Хатняя скаціна на бразе расце як на дражджах, а ў свіней "сала расце аж на тры пальцы".

Працэс самагонаварэння не абыходзіцца без кур'ёзных выпадкаў. Праз Вілейскі раён праходзіць газаправод. У асабліва спякотныя дні над ім некалькі разоў у суткі пралятае верталёт з мэтай агляду на выпадак пажару. Аднойчы экіпаж машыны ўбачыў дым амаль каля газаправода. Але гэта быў не пажар, гэта гналі самагон. Верталёт завіс над апаратам, з машыны на страховачным фале спусцілі вядро. Каб не сварыцца з пажарнымі, самагоншчыкі налілі паўвядра гарэлкі. Інцыдэнт быў вычарпаны ў прамым і пераносным сэнсе.

І напрыканцы: летась Палата прадстаўнікоў прыняла больш мяккі варыянт закона. Цяпер артыкул гучыць так: у Рэспубліцы Беларусь дазваляецца выраб у хатніх умовах віна, настоек і лікёраў для асабістага карыстання. Значыць, у тым ліку і самагонкі. Тут дзейнічае і іншы прынцып: што не забаронена, тое дазволена. Паралельна ўнесеныя папраўкі ў Крымінальны кодэкс, які будуць разглядаць увосень. Там на аснове прынятага закона адмяняецца крымінальная адказнасць за выраб самагонкі, але ўводзіцца пакаранне за яе рэалізацыю.

Усё добра, што ў меру.

**Ігар КІЦІКАЎ, Вілейка.**

■ ХАВАЙСЯ Ў БУЛЬБУ

## Хто ля апарата?

**Гэтую гісторыю пераказваюць даўно, таму цяжка вызначыць, праўда гэта ці выдумка.**

Участковы інспектар міліцыі ў лесе наткнуўся на мужыка, які сядзеў ля самагоннага апарата. З трубкі ў бутэльку капала прадукцыя. Міліцыянер вырашыў аформіць дакументы, каб пакараць парушальніка. Але для гэтага патрэбныя былі панятыя. Ён і адправіў мужыка ў бліжэйшую вёску, каб той прывёў сведкаў, а сам застаўся ля апарата.

Неўзабаве мужык вярнуўся з двума сведкамі. Пратакол афармілі, самагонны аппарат канфіскавалі разам з прадукцыяй.

На судзе мужык сваю віну не прызнаў. У апраўданне ён спаслаўся на паказанні сведкаў. У зале суда мужык задаў сведкам толькі адно пытанне:

– Калі вы прыйшлі ў лес, хто сядзеў ля самагоннага апарата?

Пра тое, якое рашэнне вынес суд, гісторыя маўчыць.

## Таварыскі суд

Адбылося гэта ў канцы 80–х гадоў, у разгар барацьбы з п'янствам, у адным з калгасаў Смаргонскага раёна. Камісія ў складзе трох членаў таварыскага суда на чале з галоўным аграномам рабіла рэйд па выяўленні п'яных на рабочым месцы. Была восень.

У полі ўбачылі трактар, у кабіне якога сядзеў п'яны трактарыст. Камісія зафіксавала гэты факт у пратаколе, тым болей, што і трактарыст нічога не адмаўляў – знешнасць работніка гаварыла сама за сябе. У кабіне трактара знайшлі бутэльку, напалову напоўненую нейкай вадкасцю. Камісія палічыла гэта доказам распіцця спіртнога на рабочым месцы.

Але трэба было вызначыць, што ў бутэльцы. Для гэтага ўсе члены камісіі прыкладаліся да бутэлькі і пакаштавалі вадкасць. Так з'явіўся адпаведны запіс у пратаколе: "шляхам пробы ўстанавілі: у бутэльцы знаходзіцца гарэлка".

Пасля афармлення дакументаў, члены камісіі забралі бутэльку і прадоўжылі рэйд па выяўленні п'яных на рабочых месцах.

Трактарыста таварыскі суд за распіццё спіртнога на рабочым месцы пакараў...

**Мікіта ЛІСТАПАД.**

